ВОЛЬГА ГАПЕЕВА

# СУМНЫ СУП

Гісторыі



СУМНЫ СУП


ПАРАСОН І СЛОЎНІК


ХВОРЫ ГУЗІК


КОТ І КАЦЯНЯ


НАВОШТА ЛІЧЫЦЬ АВЕЧАК









ВОЛЬГА ГАПЕЕВА

СУМНЫ СУП



МАСТАК МАРТА ГЕРАШЧАНКА

ВОЛЬГА ГАПЕЕВА

# СУМНЫ СУП

Гісторыі



Мінск
"Галіяфы"
2014

УДК 821.161.3-93
ББК 84 (4Беи)-44
Г19

*Бібліятэка*
*Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*"Кнігарня пісьменніка"*
*Заснаваная ў 2009 годзе*

*Падсерыя "Каляровы ровар"*
*Заснаваная ў 2013 годзе*
*Выпуск 4*

*Мастак Марта Герашчанка*

**Гапеева, В.**
Г19 Сумны суп / Вольга Гапеева. – Мінск : Галіяфы, 2014. – 72 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка". Падсерыя "Каляровы ровар"; вып.4).
ISBN 978-985-7021-30-7

Новая кніга Вольгі Гапеевай "Сумны суп" – гэта гісторыі для дарослых дзяцей і маленькіх дарослых. Тут магчыма ўсё: слоўнікі дапамагаюць парасонам, гузікі шукаюць сэнс жыцця, а вожыкі спрабуюць знайсці адказ на пытанне, якое іх даўно хвалюе, – *навошта лічыць авечак.* За звычайнымі, здавалася б, размовамі і ўчынкамі герояў хаваюцца філасофскія думкі і разважанні, да якіх можа далучыцца кожны, хто прачытае новую кнігу Вольгі Гапеевай з ілюстрацыямі Марты Герашчанкі.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84 (4Беи)-44**



**ISBN 978-985-7021-30-7**

# Сумны суп

У кватэры нумар 66 шматпавярховага дома на пліце ў рондалі жыў суп. Аднойчы, здаецца гэта было ўчора, суп вылілі ў талерку і паставілі на стол. Хлопчык Уладзік грозна занёс лыжку і апусціў яе ў талерку. Але замест таго, каб зачарпнуць суп і паднесці лыжку да рота, Уладзік стаў павольна боўтаць лыжкай у талерцы, быццам спрабаваў там нешта знайсці. Суп ужо стаміўся ад таго, што ў ім туды-сюды валэндалі лыжкай, якую ён пачаў паціху недалюбліваць.

– Колькі можна! – думаў суп. – Я ўжо пачынаю паціху замярзаць тут. А яшчэ гэтая лыжка, у мяне ўжо галава ад яе разбалелася.







І тут пачуўся голас Уладзіка, які прагучаў як прысуд:

– Гэта сумны суп, я не буду яго есці.



Праз канты сваёй талеркі суп пабачыў незадаволены твар таты.

– Чаму гэта сумны? Нічога не сумны. Суп як суп, – заявіў тата.
– Як які суп? – запытаўся Уладзік
– Што як які суп? – не зразумеў яго тата.
– Ты сказаў: суп як суп. Як які суп? – не адступаў хлопчык.
– Перастань чапляцца да словаў.
– Нічога я не чапляюся, я ж не чапля. А што, чаплі чапляюцца да словаў?
– Уладзік, ты вырашыў абед ператварыць у павольнае катаванне бацькі? Не хочаш – не еш. Будзеш галодны.





Тата забраў талерку з-пад носа Уладзіка якраз у той момант, калі круглая слёзка пачала сваё падзенне з Уладзікавай шчакі. Яшчэ б трошачкі – і яна патрапіла б акурат у суп. Тата выліў змесціва талеркі назад у рондаль і гучна пляснуў на яго накрыўку.



Суп апынуўся ў поўнай ізаляцыі. Высокія сценкі рондаля надзейна ахоўвалі суп ад знешняга свету. Ён нічога не бачыў, а дзякуючы накрыўцы яшчэ нічога і не чуў.

– Можа я сапраўды сумны? –

падумаў суп. – Ну вось што ўва мне цікавага? Адна вада...

Суп узгадаў Уладзікаву слёзку і змрочны твар таты і адчуў, што ва ўсім вінаваты ён.





Ад гэтага суп і сапраўды пачаў сумаваць і надумаў нават скіснуць. Няхай ён памрэ, а яго беднае цела сальюць у ракавіну. Так стаяў суп на пліце і павольна разважаў пра тое, як бы яму хутчэй скіснуць. А скіслы суп, зразумела, ужо дакладна ніхто не стане есці.

А зусім побач на стале адбывалася нешта грандыёзнае. Памаранчавая морква, зялёны кроп, белая капустка і нават грыбы шампіньёны – усе яны чамусьці радаваліся і быццам рыхтаваліся да нейкага свята.

– Я вось не ўпэўнена, ці спадабаецца мой колер супу. Усё ж такі памаранчавы – гэта вам не белы. Вось капустка можа быць спакойнай, – хвалявалася морква.

– Вой, а раптам там будзе занадта горача. Ад вялікай тэмпературы я разамлею і не буду такой смачнай, – адказала капустка.

– А раптам мяне занадта дробна пакрышаць, і суп не пазнае мяне? Што я тады буду рабіць? – нерваваўся кроп.



І толькі грыбы ні пра што не перажывалі. Яны былі гатовыя да ўсяго. А можа, ім проста было ўсё адно? Да таго ж шампіньёны размаўлялі толькі па-французску і таму лічылі, што лепш маўчаць, каб ніхто не здагадаўся пра іх няўменне размаўляць па-беларуску.







Часу заставалася ўсё меней, і тут, калі суп ужо быў канчаткова расчараваўся ў сабе,

паднялася накрыўка, і ў рондаль пасыпаліся адзін за адным морква, кроп, шампіньёны, капустка. Яны весела шлёпаліся ў суп, давалі нырца, карагодам беглі за лыжкай, што памешвала іх, а суп цалкам забыўся на свой кепскі настрой і разам з усімі булькаў ад радасці.



Цяпер ён ведаў, што не адзін і ніякі ён не сумны, а хлопчык Уладзік проста капрызіў і не хацеў есці, таму і абазваў яго сумным. Уладзік моцна пакрыўдзіў ні ў чым не вінаваты суп адным словам.





Суп бы ніколі так не зрабіў.
А ты?

# Парасон і слоўнік

Парасон заўсёды хацеў даведацца, адкуль у яго такое дзіўнае імя. Колькі ён сябе памятае, усе яго так называлі, але чаму – парасон не ведаў. Падваконне называлі так, таму што яно было пад акном, лядоўню – таму што яна выпрацоўвае лёд, і нават чаму заплечнік называецца заплечнікам ён здагадваўся: таму што яго носяць за плячыма.

Але вось пра сваё імя парасон нічога разумнага сказаць не мог.



– Ну вось глядзі, што ёсць у маім імені, – дзяліўся ён з грабеньчыкам, які ў гэты час адпачываў каля люстэрка. – Ёсць “пара” і “сон”. І што гэта нам дае? Што мяне раскрываюць над парай ці што я для таго, каб лепшым быў сон? Не. А тады што?

– Я ведаю, хто табе можа дапамагчы, – сказаў грабеньчык, які часта вандраваў па кватэры і быў шмат з кім знаёмы. – Запытайся ў слоўніка. Ён жыве ў суседнім вялікім пакоі. Ён такі тоўсты, што мусіць ведаць усё.

– Дзякуй, але як жа мне з ім сустрэцца? Я ніколі не быў у вялікім пакоі і наўрад ці калісьці там буду, – занепакоіўся парасон.

– Ну ты і песіміст, – адказаў яму грабеньчык.

– Хто-хто? – перапытаў парасон.

– Песіміст. Гэта той ці тая, хто перажывае, што не патрапіць у вялікі пакой.

– А-а, – сказаў задумліва парасон, здзівіўшыся, што ёсць асобнае слова для такіх, як ён.

– Не перажывай, прыдумаем штосьці, – супакоіў яго грабеньчык. – Думаю, што шанец сустрэцца ў вас ёсць. Глядзі, яго могуць пераносіць з пакоя ў пакой і пакласці на нейкі час тут у нас у калідоры. Так што ты чакай і пільнуй гэты момант.

– Ну добра. Больш усё адно нічога не застаецца, – пагадзіўся парасон.



І парасон стаў чакаць. Ён думаў, што чакаць давядзецца доўга, можа, нават год ці два, а можа, увогуле ён не дачакаецца і так нічога і не даведаецца пра сваё імя. Але парасону пашчасціла, і аднойчы, калі ён вярнуўся са шпацыру, то ўбачыў, што на тумбачцы, дзе жылі боты і пантофлі, ляжаў незнаёмы аб'ект.





– Гэй, парасон, – прашаптаў грабеньчык. – Гэта і ёсць той слоўнік, пра які я табе казаў. Давай, не губляй часу, пытайся, пакуль ён тут.

Парасон уважліва прыгледзеўся да слоўніка. Слоўнік сапраўды быў такім вялікім, што, здавалася, ён ведае ўсе словы на свеце.

– Глыбокашаноўны спадар слоўнік, – пачаў парасон, – я хацеў бы звярнуцца да Вас з пытаннем.

– Кх-кх, – адкашляўся слоўнік. – Так, так, я Вас слухаю, – сказаў ён і зрабіў сур'ёзны выгляд.

– Справа ў тым, што мяне завуць парасон, і... справа ў тым, што я не ведаю, чаму мяне так завуць.

– Кх-кх, – зноў пакашляў слоўнік. На ім было шмат пылу – і таму ён увесь час кашляў. – Ну добра.



А навошта Вам гэта ведаць, паважаны парасон?







– Як навошта? – здзівіўся парасон. – Калі я буду ведаць, чаму мяне так завуць, я лепш буду сябе разумець.

– А што, Вы сябе не разумееце?

“І чаму ён задае так шмат пытанняў? А яшчэ кажуць, што ён усё ведае”, – думаў пра сябе парасон.

– Бывае, вось я раскрыюся, а потым закрыюся, і сам не разумею чаму.

– І Вы думаеце, што я магу Вам дапамагчы ў гэтым?

– Так.

– Ну добра, давайце паглядзім, што я магу для Вас зрабіць.






І слоўнік стаў гартаць свае старонкі. Нарэшце ён знайшоў літару "П".

– А вось і Вашае імя: ПАРАСОН, – сказаў слоўнік.

– Так-так, і што там? – не цярпелася даведацца парасону.

– Тут напісана, што Ваша імя прыйшло з французскай мовы. Першапачаткова Вашыя продкі служылі людзям і ахоўвалі іх ад сонца.

– Як ад сонца? – здзівіўся парасон. – А што ж яны рабілі, калі ішоў дождж?

– Яны проста заставаліся дома і не выходзілі на вуліцу. Таму Вашае імя літаральна значыць "супраць сонца" – пара соль.

Ну як, цяпер Вам стала больш зразумела?

– Так. Раней я не вельмі любіў сонца, таму што калі на вуліцы сонца, то ўсе на мяне забываюцца. Я стаю ў куце і чакаю, калі ж пойдзе дождж. А цяпер я ведаю, што калісьці абараняў людзей і ад сонца. Пэўна, мае продкі не любілі дождж, таму што тады яны стаялі, як я, у куце і сумавалі. А цяпер усё памянялася. Гэта так цікава. Дзякуй Вам вялікі, паважаны спадар слоўнік.

– Калі ласка.



Цяпер парасон усім з радасцю распавядае такую цудоўную гісторыю свайго імя.

А ты ведаеш гісторыю свайго імя?

# Хворы гузік

На паліто, якое вісела ў вітальні, жыў гузік. Гузік быў яшчэ зусім не стары па гузікавых мерках. Яму было ўсяго 35 год, а самаму старому гузіку, які жыў недзе ў далёкім музеі ў краіне Швейцарыя, – 335 год. Але гузіку заўсёды здавалася, што з ім нешта не так, то бачок у яго баліць, то вушка. Іншыя гузікі на суседніх паліто так і празвалі яго – хворы гузік.





– Вой, паглядзіце, здаецца, што з правага боку ў мяне нейкая драпінка, – плакаўся гузік.

– Ды няма там нічога, ніякай драпінкі, – супакойваў яго гузік падобны да хваёвай шышкі.

– А-ёй, а-ёй, неяк мяне не моцна трымае мая нітачка, пэўна, я хутка адарвуся і згублюся на вуліцы, – перажываў за сябе гузік.

– Ну што ты такое кажаш, у цябе такая цудоўная нітачка і яна цябе моцна трымае, – падбадзёрвала яго зашпілька-маланка, што жыла на куртцы.

– А ты ўвогуле не можаш мяне зразумець. У цябе нават нітачкі сваёй няма, – абураўся хворы гузік.

І заўсёды гузік знаходзіў, з чаго б яму засмуціцца.

Калі іншыя жыхары вопраткі на вешаку радаваліся, абменьваліся апошнімі навінамі, хто што бачыў на вуліцы, хворы гузік з недаверам слухаў гэтыя размовы і зайздросціў сваім суседзям:

– Вядома, ім добра, яны вунь жывуць на зялёным паліто, не тое што я – на сінім. Калі б я жыў на зялёным палітоне, я б таксама быў шчаслівым і змог бы стаць самым знакамітым гузікам у свеце, – думаў пра сябе хворы гузік. Ён нават думаў, што яму не пашчасціла быць прышытым на мужчынскім баку і перажываў:

– Вось калі б я жыў на жаночым баку вопраткі, я б таксама радаваўся, як вунь тыя гузікі з фіялетавага кажушка. Быць прышытым справа вельмі нязручна, – разважаў хворы гузік. – Вось калі б я жыў на левым баку – тады ўсё было б прасцей.

Так прайшоў год. Усе ўжо звыкліся з вечнымі слязьмі і скаргамі хворага гузіка, і ніхто не звяртаў на яго ўвагі, таму што гузік заўсёды расказваў толькі пра сябе і свае перажыванні, іншых не слухаў, а толькі зайздросціў і казаў, што яго ніхто не разумее.



Была серада, калі гаспадар паліто, на якім жыў хворы гузік, апрануўся, зашпіліўся і выправіўся на шпацырку. Быў цёплы сонечны дзень, і мужчына расшпіліў гузік, бо рабілася горача.

– Ну вось, колькі можна мяне мучыць. Туды-сюды, туды-сюды. То зашпіляць, то расшпіляць. Колькі можна! – хваляваўся незадаволены гузік. – Хутчэй бы ўжо адарвацца...

І толькі ён так сказаў, як нітачка не вытрымала і парвалася. Гузік на хвіліну адчуў нешта незразумелае, як усё закруцілася перад вачыма – і ён паляцеў. Але лётаць гузік не ўмеў і таму праз некалькі секундаў зваліўся на зямлю.







– Вой, што гэта? – страпянуўся голуб, які пачуў, як злева ад яго нешта пляснула. Ён азірнуўся па баках, але там нікога не было. Тады ён паглядзеў на неба – там таксама нічога не змянілася. Тады ён зірнуў сабе пад лапы і заўважыў нейкі дзіўны прадмет. Голуб выйшаў сёння на шпацыр без акуляраў і таму ўсё ніяк не мог разабраць, што там такое ляжала і войкала каля яго правай лапкі. Ён абцёр сваю дзюбу аб пёркі і дзюбнуў незнаёмы прадмет. Незнаёмы прадмет войкнуў. Тады голуб яшчэ раз дзеўбануў яго.

– Ая-яй, што ж гэта робіцца! Перастаньце мяне дзяўбці.

– Хто гэта? Хто ты? – не разумеў голуб.

– Я гузік. А вы хто? – спытаўся гузік.

– А я голуб. А што ты тут робіш? Я раней тут цябе ніколі не бачыў.

– Я не ведаю, – разгубіўся гузік. – А дзе я? Дзе мая нітачка? Дзе маё паліто?

Голуб зусім нічога не разумеў: якая нітачка, якое паліто? “Нейкі хворы гузік, – падумаў голуб, – штось з ім не ў парадку. Пайду-ка я лепш адсюль, а то яшчэ, крый божа, сам захварэю”.

Голуб сышоў, а гузік застаўся ляжаць на дарозе.

Ён нічога не разумеў:

– Няўжо я адарваўся?
Няўжо гэта канец?
А як жа, а як жа...?



– Ну чаго ты плачаш? – пачуў раптам чыйсьці голас гузік. Побач з ім ляжала абгортка ад цукеркі. – Прывыкай. Цяпер у цябе пачнецца новае жыццё, калі гэта можна назваць жыццём.

– Што ты такое кажаш? – не разумеў яе гузік. – Ты ўвогуле хто?

– Я – абгортка ад цукеркі. Раней я жыла, як каралеўна, у цёплай краме,





потым ляжала ў крыштальнай вазе разам з іншымі сваімі сяброўкамі. А вось цяпер жыву тут, на вуліцы. А ты як апынуўся тут?

– Я не ведаю.... Напэўна я адарваўся... – засмуціўся гузік.

І ён узгадаў сваё сіняе паліто і сваю нітачку і тое, як яму добра жылося разам з імі, а ён нават і не думаў пра гэта. Ён толькі жаліўся на тое, як яму кепска. А цяпер вось яму сапраўды кепска. Але тут на вуліцы яго ніхто не стане шкадаваць і слухаць. Тут ён нікому не патрэбны.

**Гузік шмат чаго зразумеў, але позна. А ты?**

# Кот і кацяня

Гэта гісторыя можа падацца неверагоднай, але яна адбылася на самой справе. У адным літоўскім горадзе жыў кот і жыў ён у прытулку. Не сказаць, каб яму там вельмі падабалася, але ўсё ж нейкі дах над галавой і гарантаваная талерка малака.

Раней кот думаў, што можа выпіць

акіяны малака,

але пасля некалькіх месяцаў жыцця ў прытулку ён ужо не мог глядзець на гэтае малако, а выйсці на вуліцу і адшукаць штосьці іншае было нельга.



У ката была свая клетка, дзе ён жыў, але, як і малако, яна яму ўжо надакучыла. Кот ведаў усе шчарбінкі на жалезных прутках, і праз нейкі час яму стала здавацца, што ўвесь навакольны свет таксама ў клетачку.



Забавак у прытулку было не шмат, а дакладней – ніякіх, таму кату даводзілася нешта прыдумляць самому, каб зусім не засумаваць.

Ну вось напрыклад, калі да іх заходзілі людзі, кот звяртаўся да сваёй суседкі, паласатай коткі:







– Давай спрачацца на калыханку, што першая клетка, да якой яны падыдуць, будзе трэцяя справа ў другім шэрагу, – усхвалявана муркаў кот.

– Я стаўлю на трэцюю клетку злева, – адказвала котка.

І калі выйгравала котка, то кот спяваў ёй вечарам калыханку, а калі яна прайгравала – то калыханку пяяла яна. Бывала, што яны абое памыляліся, і тады ніхто нікому нічога не спяваў, і яны засыналі, думаючы кожны і кожная пра сваё.

У гэтым жа горадзе жыла Раса, яна была перакладчыцай і дапамагала людзям зразумець адно аднаго. Неяк Раса і ейны муж вырашылі ўзяць з прытулку ката. Яны прыйшлі якраз у той прытулак, дзе жыў кот. Так атрымалася, што ён ім вельмі спадабаўся і яны забралі яго дадому.

Кату далі імя, сфатаграфавалі і выдалі пашпарт.

Цяпер ён быў катом з дакументамі і мог разам з Расай і ейным мужам вандраваць па розных краінах.












Усе былі вельмі радыя і хутка апынуліся ў новым доме, які знаходзіўся ў далёкім горадзе Брусэлі, у гонар якога назвалі адну капусту (брусэльская капуста – кот яе не вельмі любіў) і вафлі (брусэльскія вафлі – кот гатовы быў з'есці тону такіх вафляў).

Аднойчы, калі кот выправіўся на шпацыр, бо яму трэба было разведаць, што тут ёсць цікавага, і знайсці сабе новых сяброў, ён так захапіўся вывучэннем горада, што заблукаў. Добра яшчэ, што кот не губляў часу, чытаў кніжкі сваёй гаспадыні і таму ўмеў трошкі размаўляць па-французску. Так, так, у катоў, як і ў людзей, усе мовы розныя.

Кот пабачыў у куце кавярні маленькае кацяня і вырашыў запытацца ў яго пра адрэсу.

– Банжур, пці гарсон (што значыла – добры дзень, маленькі хлопчык).

– Банжур, месьё, – адказала яму кацяня.

– Я выбачаюся, – працягнуў кот, – але, здаецца, я заблукаў і мне патрэбная дапамога. Ты ведаеш, як мне дайсці да вуліцы Жоўтых Нарцысаў?

– Так, ведаю. Магу вас туды адвесці, – прапанавала кацяня

– Буду вельмі ўдзячны.

І яны пайшлі. Па дарозе кот распытваў кацяня:

– А ты жывеш у кавярні?

– Не, я проста часта там сяджу, бо там смачна пахне круасанамі і гаспадары мяне не выганяюць. На самой справе ў мяне няма дому, – прызналася кацяня.

– Чаму б табе не застацца жыць у нас? – раптам прапанаваў кот, калі яны ўжо дайшлі да вуліцы Жоўтых Нарцысаў.

– Не-не-не, Вы што. Вашыя гаспадары зусім не ўзрадуюцца такому. Тым больш, што ў іх ужо ёсць адзін кот.

– Не выдумляй, ты іх не ведаеш – яны вельмі добрыя людзі і абавязкова пакінуць цябе ў нас.







Кацяня яшчэ б доўга ўпарцілася, але тут у сад выйшла Раса і пабачыла побач з іхным катом незнаёмае маленькае кацяня.

– Ага, вось ты дзе, – сказала Раса, – я гляджу, ты вярнуўся не адзін са свайго шпацыру. Пазнаёміш нас? – і яна прысела на кукішкі, каб павітацца з малым кацянём.

– Ну што, хадземце вячэраць? Усё ўжо гатова, мы толькі вас і чакалі.

Так кот з літоўскага прытулку дапамог брусэльскаму кацяняці знайсці дом.







А каму і як дапамагаеш ты?

# Навошта лічыць авечак

У самым звычайным доме на вуліцы імя Ружовай Сыраежкі жыў вожык. Вожык жыў з мамай  і татам, і часам на выходныя да іх прыязджалі бабуля і дзядуля з далёкага лесу. Як і ўсе дзеці, вожык таксама хадзіў у школу, а пасля школы рабіў урокі. Потым ён хуценька бег у музычную школу, дзе сеньёра вавёрка вучыла яго граць на ягадках суніцаў. Вожык часта заставаўся адзін і любіў паразважаць, а калі што забаўнае прыходзіла яму ў галаву, ён адразу хацеў падзяліцца сваімі думкамі і ідэямі.

Была пятніца, і тата-вожык вяртаўся з працы раней. Пакуль ён ішоў дадому, то думаў, чым бы такім прыемным яму заняцца. Можа, пачытаць кніжку? А можа, паглядзець кіно? А можа, спячы смачны пірог? З такімі думкамі тата-вожык зайшоў дадому.

І не паспеў ён перакрочыць ганак, як да яго адразу падбег вожык і пачаў дапытвацца:

– Тата, а чаму, калі не можаш заснуць, трэба лічыць авечак?

– Што? – не адразу зразумеў яго тата-вожык. – Якіх авечак? Табе задачку пра авечак трэба рашыць?
– Не, я ўжо рашыў усе задачкі на заўтра. Авечкі, якіх трэба лічыць.
– А навошта іх лічыць? - усё ніяк не мог даўмецца тата.
– Таму што не спіцца.
– Каму не спіцца? Табе не спіцца?
– Ды не мне, а ўсім не спіцца.
– Не ведаю, мне добра спіцца.
– Тата, я пра іншае. Чаму вось калі не спіцца, мама кажа "палічы авечак".
– А-а-а-а, ты пра гэтых авечак. Ну... – задумаўся тата і, не знайшоўшы чаго лепшага, адказаў: – Таму што так прынята.
– А чаму так прынята? – не спыняўся вожык.
– Таму што гэта такая традыцыя.
– А адкуль яна ўзялася, гэта традыцыя?





– Адкуль, адкуль... Аднекуль жа ўзялася. І ўвогуле я хачу паспець спячы пірог з дзьмухаўцоў, пакуль не вярнулася мама, зрабіць ёй сюрпрыз. Дапаможаш мне?
– Так, дапамагу, а як жа авечкі? – засмуціўся вожык.
– Нікуды не падзенуцца твае авечкі, а вось дзьмухаўцы могуць сапсавацца. Давай памыем іх і пачнём гатаваць.
– Ну добра, – пагадзіўся вожык.



Праз гадзіну прыйшла мама, і пірог якраз паспеў спячыся. Мама была вельмі радая. Тата-вожык адрэзаў усім па кавалачку, паклаў на зялёныя сподачкі і запарыў гарбату з валошак. Усе выйшлі на балкон і пачалі частавацца пірагом. Але мама заўважыла, што вожык нейкі сумны і запыталася:

– А што здарылася? Табе не смачны пірог?
– Ды не, я проста думаю.
– Пра што ты думаеш?
– Пра авечак.
– А чаму ты пра іх думаеш?
– Ведаеш, мама, я вось хачу зразумець, чаму, калі не можаш заснуць, трэба лічыць авечак.

Ты ведаеш?







– Можа, таму што яны такія пухнатыя, прыемныя і белыя, і калі думаеш пра іх, то адразу хочацца ўжо спаць?

– Можа..., – абдумваў маміну прапанову вожык.

– А тата што сказаў? – пацікавілася мама.

– Сказаў, што гэта традыцыя нейкая.

– А ты сам як думаеш?

– Я думаю, што можа раней авечкі былі вельмі цікаўнымі і хацелі шмат пра што ведаць, таму часта разбрыдаліся ў пошуках новых прыгодаў. Аднак калі іншыя жыхары вёскі ці лесу збіраліся на важнае мерапрыемства, авечкі ўвесь час спазняліся ці ўвогуле не прыходзілі,

і трэба было іх увесь час лічыць.



І як толькі іх пачыналі лічыць, прыходзіла адна ці дзве авечкі – і лік даводзілася пачынаць спачатку. І так доўга іх лічылі, што ўсе астатнія жывёлкі засыналі.

– Гэта вельмі цікавая версія,

– пахваліла мама вожыка.



– Дзякуй, але я больш люблю лічыць яблыкі, –

– задаволена сказаў вожык.

Сёння ён разгадаў чарговую загадку і быў вельмі шчаслівы праз гэта.

## А ты як думаеш, чаму лічаць авечак?



# ЗМЕСТ


СУМНЫ СУП
4

ПАРАСОН І СЛОЎНІК
18

ХВОРЫ ГУЗІК
30

КОТ І КАЦЯНЯ
42

НАВОШТА ЛІЧЫЦЬ АВЕЧАК
56









*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Вольга Гапеева*

**Сумны Суп**

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Дызайнер і вярстальнік *Марта Герашчанка*
Карэктар *Надзея Шакун*

Падпісана да друку 13.03.2014
Фармат 60х90/8. Папера крэйдаваная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк 9. Ул.-выд. арк. 11,02.
Наклад 1000 асобнікаў.

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства “Галіяфы”.
Запіс №1/48 ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў
і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў
вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru.
www.galiafy.by

Надрукавана ў Літоўскай Рэспубліцы:
ЗАТ “Petro ofsetas”
вул. Саванорыю D 174, LT-03153, Вільнюс